# Тыднёвік Магілёўскі

№ 13 (154) 29 сакавіка – 4 красавіка 2002 г. Кошт 100 руб.


ПАГОНЯ
Папа Рымскі спаткаецца з гарадзенцамі

## Зварот надзеі і адчаю



***Прэзыдэнту Літвы Валдасу Адамкусу, Прэм'ер-міністру Вялікай Брытаніі Энтоні Блэру, Прэзыдэнту ЗША Джорджу Бушу, Прэзыдэнту Латвіі Вайры Віке-Фрэйберга, Прэзыдэнту Чэхіі Вацлаву Гавалу, Прэзыдэнту Польшчы Аляксандру Квасьнеўскаму, Прэзыдэнту Украіны Леаніду Кучме, Прэзыдэнту Расейскай Фэдэрацыі Уладзімеру Пуціну, Канцлеру Нямеччыны Герхарду Шродэру***

*Паважаныя Спадары!*

*Мы, Мікола Маркевіч і Павал Мажэйка, журналісты зь беларускага гораду Горадні, зьвяртаемся да Вас з просьбай выкарыстаць свой аўтарытэт і ўплыў дзеля таго, каб спыніць заплянаваную беларускімі ўладамі расправу над намі.*

*Мы працавалі ў газэце "Пагоня", зачыненай Вышэйшым Гаспадарчым судом Рэспублікі Беларусі 12-га лістапада 2001г. Працэс закрыцьця быў ініцыяваны пракуратурай у сувязі з актыўнай грамадзянскай пазыцыяй выданьня. Пра гэта можна меркаваць па тым факце, што Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусі, у інтарэсах якога быў заяўлены гэты зыск, цягам працэсу адмовілася ад яго. Міністэрства прызнала, што няма **"прававых падставаў для падтрымкі зыскавых патрабаваньняў аб спыненьні дзейнасьці сродку масавай інфармацыі – газэты "Пагоня", якія былі прад'яўленыя Пракурорам Гарадзенскай вобласці".** Аднак гэта не перашкодзіла беларускаму "правасудзьдзю" зьдзейсьніць зьнішчэньне газэты.*

*Сёньня прыйшла нашая чарга, журналістаў. Пракуратура Гарадзенскай вобласьці высунула нам абвінавачваньне па частцы 2 артыкула 367 Крымінальнага Кодэксу Рэспублікі Беларусі – "Паклёп на Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь". Справа ўжо перададзеная ў суд. Нам пагражаюць пазбаўленьнем волі да 5-ці гадоў. І гэта нягледзячы на тое, што абвінавачваньне не базуецца ні на фактах, ні на заканадаўстве Рэспублікі Беларусі. Акрамя гэтага, Беларусь – адзіная краіна ў Эўропе, дзе выкарыстоўваецца крымінальны перасьлед па справах падобнага кшталту.*

*Тры (!) групы экспэртаў (дзьве зь іх былі замоўленыя пракуратурай) далі высновы, что ў прадастаўленых для заключэньня спэцыялістаў публікацыях "Пагоні" паклёпу на прэзыдэнта Беларусі няма. Ва ўсіх трох выпадках зробленая адназначная выснова, што па сваёй форме артыкулы **зьяўляюцца не паведамленьнем пра якія-кольвек факты, але публічным выказваньнем асабістай пазыцыі аўтараў**, што дазволена беларускім заканадаўствам.*

*Больш за тое: дадзеная пазыцыя аўтараў базавалася на шматлікіх публікацыях у замежных і беларускіх сродках масавай інфармацыі, дзе імёны некаторых высокапастаўленых беларускіх чыноўнікаў узгадваліся ў зьвязку зь іхнай датычнасьцю да зьнікненьняў палітычных апанэнтаў кіраўніка беларускай дзяржавы і дзейнасьцю так званых "эскадронаў сьмерці". Тым ня менш, замест таго, каб распачаць па факту газэтных публікацыяў крымінальную справу і расьсьледаваць яе належным чынам, пракуратура стала затыкаць раты журналістам, робячы з нас крымінальнікаў. І гэта пры тым, што нумары газэты з артыкуламі, якія прыцягнулі ўвагу пракурораў, былі арыштаваныя яшчэ ў друкарні. Гэта азначае, яны **не дайшлі да чытача, не было распаўсюджваньня.***

*Той факт, што расьсьледаваньне нашай справы было праведзенае з надзвычай грубымі парушэньнямі закону, тое, што былі адхіленыя ўсе нашыя хадайніцтвы, тое, як цынічна праігнараваныя абставіны, якія сьведчаць аб адсутнасьці факта і склада злачынства – усё гаворыць аб замоўленым характары крымінальнага перасьледу.*

*У зьвязку з гэтым у нас няма надзеі на аб'ектыўны і справядлівы суд. Паводле інфармацыі, якой мы валодаем, вынік "судовага разьбіральніцтва" ужо вядомы. У кулюарах называюцца нават канкрэтныя тэрміны пазбаўленьня волі.*

*Крымінальная справа супраць нас – у пэўным сэньсе палігон, на якім улада абкатвае мэханізм канчатковага задушэньня свабоды прэсы. Пасьля нас будуць дзясяткі падобных справаў. Абараняючы нас, Вы абароніце ад злачынных замахаў усю беларускую недзяржаўную прэсу.*

*Правы чалавека і свабода слова, у прыватнасьці, не зьяўляюцца ўнутранай справай адной асобнай краіны. Менавіта таму мы зьвяртаемся да Вас з просьбай узвысіць свой голас супраць беззаконьня і самавольства, паўстаць на абарону дабра і справядлівасьці, абараніць нашыя правы грамадзянаў і журналістаў. Просім Вас прыкласьці ўсе намаганьні дзеля таго, каб гэтая, без перабольшваньня, ганебная для эўрапейскай краіны справа была як мага хутчэй зачыненая.*

***Мікола МАРКЕВІЧ, Павал МАЖЭЙКА***
***Горадня, Рэспубліка Беларусь***
***25 сакавіка 2002г.***

**РОЗГАЛАС 25 САКАВІКА**

## Рэжым і грамадзтва

***Вось ужо 84 гады беларусы, адданыя ідэі дэмакратычнай дзяржаўнасьці, адзначаюць угодкі 25-га сакавіка 1918 году, калі ў Менску была абвешчаная незалежная Беларуская Народная Рэспубліка. Усё больш цяжка рабіць гэта сталася цяпер, падчас праўленьня аўтарытарнага рэжыму. Пра тое сьведчаць як факты, так і апошні палітычны дакумэнт апазыцыі, вытрымкі зь якога мы падаем ніжэй.***

Гэтым разам грамадскае сьвяткаваньне ў сталіцы і рэгіёнах мела, як заўжды, неканфрантацыйны, мірны і творчы характар. У прыватнасьці ў Менску былі ўскладзеныя кветкі да помнікаў вялікім беларускім паэтам Янку Купалу й Якубу Коласу, адбыўся фэст з удзелам паэтаў, сьпевакоў, фальклёрных калектываў і рок-музыкаў. Людзі сьпявалі нацыянальны гімн...

Але, нягледзячы на мірны характар сьвяткаваньня, у Менску і Горадні спэцыяльныя міліцэйскія сілы жорстка зьбілі ягоных удзельнікаў, у тым ліку жанчын, падлеткаў, пажылых людзей і журналістаў. У Менску былі затрыманыя 80 чалавек, у Горадні – 24. Суды над імі працягваюцца, некаторых засуджваюць на адміністратыўны арышт.

Дэмакратычныя сілы Беларусі ацэньваюць падзеі 24-га сакавіка ў Менску і Горадні як сьведчаньне цалкам неадэкватнай рэакцыі ўладнага рэжыму на мірныя праявы грамадзянскай супольнасьці, як сьведчаньне страху рэжыму перад народам.

У гэтай сытуацыі мы заклікаем міжнародныя арганізацыі, міжпарлямэнцкія структуры, нацыянальныя парлямэнты і палітычныя партыі выказаць салідарнасьць з дэмакратычнай беларускай грамадзянскай супольнасьцю, а таксама запатрабаваць ад рэжыму Лукашэнкі спыненьня сілавых палітычных распраў і выкананьня чатырох умоваў АБСЭ, найпершая зь якіх – зьмена палітычнага клімату ў краіне.

Мы заяўляем, што бяз гэтага ня можа быць ніякага поўнага альбо частковага прызнаньня інстытутаў улады, якая сёньня трымаецца толькі на гвалце.

***Паводле звароту Каардынацыйнай Рады дэмакратычных сілаў Беларусі да міжнароднай супольнасьці***

## Менск, 26-га красавіка, Чарнобыльскі шлях

Паседжаньне Каардынацыйнай Рады дэмакратычных сілаў, удзел у якім узялі прадстаўнікі БНФ, АГП, Партыі жанчын "Надзея", БСДП, Беларускай экалягічнай партыі зялёных, Свабоднага прафсаюзу Беларускага, разгледзела пытаньне кааліцыйнага правядзеньня традыцыйнай веснавой акцыі – Чарнобыльскага Шляху.



Дэмакраты вызначылі, што акцыя пройдзе, як заўсёды, у Менску 26-га красавіка. Ня выключана, што масавыя мерапрыемствы будуць праведзеныя ў рэгіёнах краіны.

Нацыянальны аргкамітэт па правядзеньні "Чарнобыльскага Шляху-2002" пачне сваю працу ўжо 3-га красавіка. Ягоным кіраўніком абраны вядомы беларускі навуковец, прафэсар, сябра Нацыянальнай акадэміі навук Іван Нікітчанка.

***Паводле прэс-рэлізу БНФ***



## Свой погляд на тыдзень вобласьці

**Цікава чытаць афіцыйныя паведамленьні, кошт якім ведаеш адпачатку. Прыкладам, аблвыканкам абвесьціў вынікі суботніка, які ў ранейшыя часы называлі Ленінскім, пазьней – камуністычным. Бліжэй да нашага часу гэтыя адметнікі сарамліва хавалі за словам “працоўны”. Цяпер суботнік носіць эпітэт “патрыятычны”... Дык вось на апошнім працавала амаль 40 тыс. чалавек, якія “зарабілі” 775 млн. руб. Пойдуць сродкі на ратаваньне калгаснай вёскі, хаця, здаецца, што рэальна насьпявае час ратаваньня прамысловасьці. Як увогуле – эканомікі, а таксама фінансовай сыстэмы, будаўніцтва, транспарту, прадпрымальніцтва, культуры, мэдыцыны... Ці хопіць “рабочых патрыётаў” на ўсіх – вось у чым пытаньне.**

Паводле намесніка дырэктара Магілёўскага мясакамбінату Алега Байкова, гандаль цяпер значна менш закупляе мясной прадукцыі. Гэта пацьвярджае і “гандаль”, бо пакупніцкая папулярнасьць мясапрадуктаў скарацілася прыкладна на трацiну ад той, што была яшчэ напрыканцы мінулага года. Чаму? Магчыма, што насельніцтва занепакоілася якой чарговай хваляй шкадуючай дыеты. Нягледзячы нават на 100-даляравыя заробкі, як пра тое паведамляе афіцыйная статыстыка.

**У гэтым годзе магілёўскія будаўнікі распачнуць узьвядзеньне апэрацыйнага блёку гарадзкога шпіталю. Агульны кошт будаўніцтва – каля 40 млрд. рублёў. Вось структура гэтага кошту, паводле гарвыканкаму. Трацiна сродкаў – гэта прыватныя складкі, 22% дадуць мясцовыя прадпрыемствы, 17% – бюджэт, каля 30% будзе фінансавацца зь іншых фондаў. З усіх гэтых лічбаў зацікавіла тая, што названая прыватнымі складкамі. Камэнтару да іх не прагучала. Падумалася, што хутчэй за ўсё пачнуць “трэсьці” прыватных прадпрымальнікаў. Бо вельмі цяжка паверыць, што гэта шырокія народныя масы адгукнуцца на заклік скінуцца разам на 12 млрд. рублёў. Хаця, бязпрэчна, што новы корпус шпіталю патрэбны.**

Адзін з нашых чытачоў паведаміў, што ў магілёўскім дзіцячым садку №111 некалькі дзён адсутнічала ацяпленьне. Бывае, спачатку супакоілі мы чалавека: аварыя, відаць, што зробіш... Аднак сталася вядома, што садок вырашыў эканоміць. Часовае і вельмі няпэўнае пацяпленьне ў ім палічылі, аднак, за доўгачаканае цёплае надвор’е. Адміністрацыя садка некалькі дзён трымалася, каб не ўключаць батарэі. Тым часам дзеткі ў асноўным сядзелі па хатах. Хто ж і на чым сэканоміў?..

*Свой погляд на падзеі тыдня прэзэнтаваў Сымон Глазштэйн.*

## Першы мацярынскі пацалунак

***Андрэя Клімава выпусьцілі зь менскай калёніі раніцай. Многія лічаць, што зрабілі гэтак для таго, каб менш людзей сабралася яго сустракаць.***

Магчыма, турэмнае начальства атрымала загад ні ў якім разе не даводзіць справу да мітынгу ля турмы, як атрымалася летась, калі адсюль жа выходзіў дэпутат Уладзімер Кудзінаў. Аднак доўгачаканая сьвяточная сустрэча адбылася – з пацалункамі родных, кветкамі і бутэлькай шампану на капоце аўтамабіля. Андрэй Клімаў выглядаў шчасьлівым.

Пасьля, падчас прэсавай канфэрэнцыі ў офісе АГП, ужо зь бел-чырвона-белым значкам на джэмпэры, Клімаў падрабязна адказаў на ўсе пытаньні журналістаў. Ён паведаміў, што верыў у сваё датэрміновае вызваленьне й лічыць яго выключна вынікам ціску на беларускія ўлады з боку апазыцыі і міжнароднай супольнасьці, за што шчыра дзякуе.

...Нагадаем, што Андрэй Клімаў, з-за адкрытага выступу супраць Лукашэнкі, страціў дэпутацкі мандат, будаўнічую фірму, прыватны банк, прыватную газэту, кватэру ў сталічным шыкоўным доме па Лодачнай (у доме цяпер жывуць многія былыя дэпутацкія “калегі” ды іншыя паплечнікі кіраўніка краіны), пяцісоты прыватны “мэрсэдэс” і шмат чаго яшчэ. Але не згубіў сяброў, а нават прыдбаў новых.

Цяпер Андрэй Клімаў мяркуе ўладкавацца на звычайную працу (нават, магчыма, вартаўніком), бо яму належыць працаваць і штомесяц пералічваць па 20% заробку дзяржаве. Астатні час былы непахісны дэпутат і ўдалы бізнэсовец мае намер скарыстаць для вяртаньня сабе палітычнага аўтарытэту, які, у сваю чаргу, накіруе на змаганьне за палітычныя зьмены ў краіне. Тады, магчыма, і вернецца да бізнэсу.

*Алег ГРУЗЬДЗІЛОВІЧ*



## ...Здаецца, спадзяюцца дарма

***Раздражненьне Злучаных Штатаў з нагоды дэманстратыўных кантактаў афіцыйнага Менску з рэжымамі краінаў, што занесеныя “у чорны сьпіс”, можа паскорыць разгляд пытаньня пра ўвядзеньне санкцыяў супраць Беларусі.***

Паводле неафіцыйнай інфармацыі, Дзяржаўны дэпартамэнт ЗША цяпер вызначае фармат магчымых санкцыяў супраць РБ: ад абмежаваньняў у гандлі да забароны ўезду на тэрыторыю ЗША афіцыйным беларускім асобам і нават блякаваньня маёмасьці беларускага ўраду на тэрыторыі ЗША.

Гэтую рэакцыю Злучаных Штатаў выклікаў нядаўні візыт у Менск дэлегацыі Іраку, зь якой сустрэлася ўсё вышэйшае кіраўніцтва Беларусі. Заявы Лукашэнкі, які выступіў абаронцам Іраку, былі ў Вашынгтоне добра пачутыя.

Між тым, афіцыйны Менск усе абвінавачваньні ў незаконным гандлі зброяй і навучаньні замежных вайсковых спэцыялістаў катэгарычна аспрэчвае. Таму Вашынгтан, згодна паведамленьням зь некаторых крыніцаў, цяпер вядзе актыўныя кансультацыі з Крамлём “па беларускім пытаньні”, намацваючы магчымасьць далучэньня Масквы да націску на афіцыйны Менск.

*Паводле RR*

## Паслухалі і разыйшліся

***Нямецкі амбасадар у Беларусі Гельмут Фрык лічыць, што Беларусь апынулася па-за межамі эўрапейскіх працэсаў з прычыны свайго ўнутрыпалітычнага разьвіцьця.***

Пра гэта ён днямі заявіў падчас прыёму ў амбасадзе прадстаўнікоў грамадзкасьці і адміністрацыі краіны. Нямеччына, зазначыў Спадар Амбасадар, чакае ад беларускіх уладаў пашырэньня паўнамоцтваў “палаты” і прыняцьця законаў, якія б спрыялі свабодзе слова і большай справядлівасьці выбарчага працэсу. Амбасадар Фрык таксама нагадаў яшчэ дзьве ўмовы аздараўленьня сытуацыі: мараторый на сьмяротнае пакараньне і рашэньне аб згодзе на прызначэньне кіраўніка групы АБСЭ ў Беларусі. “Для мяне як для амбасадара Нямеччыны гэты пункт мае велізарнае значэньне, – сказаў ён, – бо меркаваны кандыдат прадстаўляе маю краіну”.

*Паводле радыё “Свабода”*

## Каго не закрануць нашыя дзеці...

***У ваколіцах нямецкага гораду Мэтэлен (зямля Паўночная Вэстфалія) напярэдадні беларускага Дня Волі адбыўся вялікі фэст.***

На шматтысячным сьвяце сябры арганізацыі “Дапамога Беларусі з Мэтэлену” зьбіралі сродкі для беларускіх дамоў-інтэрнатаў. Адзін з кіраўнікоў дабрачыннай арганізацыі Карл-Гайнц Кок паведаміў, што заробленыя грошы таксама будуць патрачаныя на летні побыт групы беларускіх сіротаў у Нямеччыне.

Дзеля збору сродкаў быў пастаўлены вялізны намёт на плошчы каля 20 тыс. кв. мэтраў, у якім некалькі тысяч людзей слухалі выступы найпапулярнейшых нямецкіх гуртоў. Людзі танчылі, пілі піва, частаваліся прысмакамі.

Грошы на гуманітарную дапамогу для сірот і чарнобыльцаў ужо колькі год даюць звычайныя немцы, якіх кранаюць беды беларускіх дзяцей. Трэба зазначыць, што ўсяго за 10 год такой дапамогі згаданая арганізацыя з Мэтэлену ўвезла ў Беларусь гуманітарных тавараў на 2 млн. нямецкіх марак. Дарэчы, гэтымі днямі па нашай вобласьці езьдзіць жоўты аўтобус з той жа Нямеччыны, што даставіў чарговую партыю гуманітарнай дапамогі дзецям “чарнобыльскіх” вёсак, а мэдыкам – адпаведныя прафэсійныя прылады і лекі.

*Паводле інф. крыніцаў*



## Другая прафэсія Фонду

**Магілёўскія пэнсіянэры скардзяцца на амаль тыднёвае спазьненьне з выплатамі пэнсіяў за сакавік.**

Але ніводная інстанцыя, куды яны зьвяртаюца, не абяцае ім своечасовай выплаты грошай. Справа ў тым, што прадпрыемствы і арганізацыі вінныя Фонду сацыяльнай абароны насельніцтва больш за 20 мільярдаў рублёў – суму, адэкватную памеру пэнсіяў амаль усіх пажылых людзей у вобласьці.

Сярод тых, хто завінаваціўся грошай пэнсіянэрам, буйныя прамысловыя прадпрыемствы: “Белшына”, Магілёўтрансмаш, Магілёўскі ліфтавы завод. А кожны чацьверты калгас просіць у Фонду сродкі на дзіцячыя выплаты. Падобная крызысная сытуацыя ўжо была ў Беларусі ў 1995-96гг. Але тады крызыс выправілі з дапамогай дзяржбюджэту.

Сёньня ж абласная філія Фонду сацыяльнай абароны насельніцтва вымушаная разьлічваць на сябе, каб ня стаць “крайняй”. Вырашана паспрабаваць ролю дылера па прасоўваньню да спажыўцоў прадукцыі тых прадпрыемстваў, якія не пералічылі грошай на сацыяльнае страхаваньне.

Пра посьпехі вымушанага вынаходніцтва пакуль не паведамляецца.

*Ганна ЮРЧАНКОВА*

## ШТО НА ТЫДНІ... У КРЫЧАВЕ І ЧЭРЫКАВЕ



***26-га сакавіка ў горадзе адбылася сустрэча кіраўнікоў кустовых цэнтраў разьвіцьця структураў Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі “Народная грамада” на Магілёўшчыне.***

Былі абмеркаваныя ўнутрыпартыйнае становішча і пэрспэктывы далейшага функцыянаваньня рэгіянальных арганізацыяў БСДП. Згаданыя кустовыя партыйныя цэнтры паўсталі на пачатку бягучага году ў Крычаве, Бабруйску і Магілёве. На сёньняшні дзень сацыял-дэмакраты-“куставікі” распрацавалі новую канцэпцыю ўзаемадачыненьняў і ўпраўленьня ў межах абласной арганізацыі.



***Паводле інфармацыі зь неафіцыйных крыніцаў, сёлета калгасам раёна выдаткавана каля 54 мільёнаў рублёў на набыцьцё адных толькі мінэральных угнаеньняў.***

Абласны бюджэт “ахвяраваў” быццам бы больш за 30 млн. Таксама ўжо вызначаныя мясцовыя прадпрыемствы, што будуць “курыраваць” (пры дапамозе грошай, тэхнікі і “жывой сілы”) дрэнна працуючыя калгасы. Такім чынам, падчас пераадольваньня крызысу ўсе ведаюць свае задачы: улады, ахвярадаўцы й “адстаючыя” гаспадаркі. Каб жа яшчэ і ўласна той спосаб, з дапамогай якога плянуецца выправіць сытуацыю, добра спрацаваў...

*Андрэй КУЗЬМІН*

# Куды і чаму зьнікае беларуская бульба

***Напярэдадні веснавой сяўбы ўрад краны прыняў пастанову, паводле якой валавы збор бульбы сёлета павінен скласьці 8 мільёнаў 300 тысяч тон.***

Аднак спэцыялісты лічаць, што гэта абсалютна нерэальна. Летась, напрыклад, сельская гаспадарка дала ўсяго крыху больш за адзін мільён тон бульбы. Зьніжэньне ўраджаю азначае для насельніцтва далейшы рост коштаў на "другі хлеб", а для краіны – павелічэньне імпарту больш якасных, чым свае, гатункаў бульбы дзеля патрэбаў грамадзкага і прамысловага яе спажываньня. Такім чынам, нацыянальны прадукт – бульба – перастае (ці ўжо перастаў?) быць прыярытэтным накірункам сельскай гаспадаркі.

Пасяўныя плошчы калгасаў па краіне за апошнія гады скараціліся ў 10 разоў – з 700 да 70 тысяч гектараў. А дрэнная якасьць свайёй бульбы ня толькі зьмяншае экспартныя пастаўкі, але, як ужо сказана, нават прымушае імпартаваць бульбу. Да прыкладу, у менскіх "Макдональдз" сваю знакамітую "фры" вырабляюць выключна з галяндзкай бульбы гатунку "санта". Дарэчы, менавіта гэты гатунак прапаноўвалі 10 гадоў таму галяндзкія бульбаводы сваім беларускім калегам. Аднак тады нашая ўлада не знайшла грошай, каб заплаціць за насеньне, а цяпер і гаворкі пра тое не вядзецца.

Аднак жа трэба сказаць, што тады такой вострай праблемай, як зараз, бульба не была. Дырэктар Менскага ўнітарна-вытворчага прадпрыемства "Бульба" Анатоль Стома нагадвае, што, напрыклад, былі выпадкі, калі замежныя спажыўцы беларускай бульбы былі гатовыя мяняць галяндзкую на нашу ў адносінах: 1kg беларускай – за 2kg галяндзкай.

Сама па сабе якасьць беларускай бульбы сапраўды цудоўная. Але асноўныя складнікі ўраджаю – гэта і высокі гатунак, і сродкі аховы росту збожжа і самой расьліны. Летась, напрыклад, сродкамі хімічнай абароны бульбы сховішчы былі забясьпечаныя толькі на 45%. Сёлета – горш...

Пра відавочны й наяўны крызыс у бульбаводзтве гаворыць і той факт, што сельгасвытворцы ня ў стане скарыстацца сэлекцыйнымі вынаходніцтвамі нават айчынных навукоўцаў. Многія гаспадаркі няздольныя набываць сэлекцыйныя гатункі насеньня, бо папросту ня маюць на тое сродкаў (тона насеньня каштуе ад 300 да 500 даляраў – пры тым, што на 100 га пасеваў яго трэба ня менш як 28 тон).

Дый увогуле: навошта і для каго вылузвацца са скуры... У большасьці беларусаў бульба свая – такая, якая ёсьць. А традыцыйныя рынкі збыту бульбы краіна згубіла яшчэ ў сярэдзіне 90-х. Тады, нагадаем, нібыта "у мэтах харчовай бясьпекі краіны" урадавай пастановай быў абмежаваны вываз бульбы за межы Беларусі. Вярнуць цікавасьць пакупнікоў не ўдаецца па аб'ектыўных прычынах. Напрыклад, Узбэкістан замаўляе гатовасьць набываць у нас штогод 150 тыс. тон клубняў, але задаволіць гэтую просьбу нашая краіна ўжо ня ў стане. Што тычыцца экспарту элітнага насеньня, дык негалосная забарона на гэта існуе й сёньня. Літаральна днямі з-за брамы прадпрыемства "Бульба" была вернутая назад машына з 2-ма тонамі насеньня. Прычына – набыў яго літоўскі фэрмэр...

Адмыслоўцы заяўляюць, што цяперашняе становішча на беларускім рынку бульбы захаваецца да таго часу, пакуль у сельскай гаспадарцы будзе існаваць камандна-адміністрацыйная сыстэма кіраваньня. Найлепшая, хаця й горкая ілюстрацыя да яе – цана кілаграму бульбы ў розьнічным гандлі – ад 300 да 500 рублёў. Год таму цэны былі амаль удвая ніжэйшыя.

***Галіна АБАКУНЧЫК***

# Колькі-колькі?..

***Дэлегацыя ўраду Масквы не падпісала кантракту зь Міністэрствам сельскай гаспадаркі і харчаваньня Беларусі пра пастаўкі ў Маскву беларускага харчаваньня.***

Меркаваныя пастаўкі ўключалі мяса, масла, сыры, бульбу ды інш. Агульная вартасьць кантракту павінна была скласьці 50-60 мільёнаў даляраў. Аднак расейцы адмовіліся ад падпісаньня выніковага дакумэнту. Як стала вядома зь неафіцыйных крыніцаў, прадметам рознагалосьсяў стаў кошт беларускага харчаваньня, які расейцы палічылі завышаным. У прыватнасьці, ім прапаноўвалі мяса птушкі па цане 1,4 даляра за кілягрвм. На маскоўскім рынку такое мяса сёньня каштуе 1,2 даляра за кілягрвм. Гэткія ж цэнавыя разыходжаньні выявіліся і ў дачыненьні да іншых харчовых тавараў.

На гэты конт старшыня Беларускага саюзу фэрмэраў Канстанцін Ярмоленка зазначае: "Для нашай бульбы й гародніны расейскі рынак зачынены. Таму што беларускія цэны вышэй. Калі раней па нашай краіне езьдзілі расейскія прадпрымальнікі ў пошуках масла, сьвініны й ялавічыны, то зараз гэтае пытаньне зусім неактуальнае".

***Міхал СТЭЛЬМАК***

# ... Пасярэдзіне, але зь яўным усходнім ухілам

***Дырэктар варшаўскага Цэнтру ўсходніх дасьледаваньняў Марэк Карп і кіраўнік аддзелу Ўкраіны, Беларусі і балтыйскіх дзяржаваў гэтага цэнтру Павал Валоўскі разважаюць пра Беларусь.***

***– На вашую думку, якое месца цяперашняй Беларусі на палітычнай мапе Эўропы?***

**Карп:** Мяркую, Беларусь ужо ня мае сур'ёзных праблемаў з самавызначэньнем, бо цяпер беларусы дакладна ведаюць, што яны беларусы. А вось вызначэньне пэўнай мадэлі дзяржавы – праблема. Можа, гістарычная спадчына гэтак моцна ўплывае... Бо ўвесь час Беларусь знаходзілася паміж дзьвюма мадэлямі – заходняй і расейскай. У выніку на мапе Эўропы Беларусь, як казалі ў XIX стагодзьдзі, ёсьць "хворым чалавекам".

**Валоўскі:** Варта дадаць, што ўсе эўрапейскія інстытуцыі расцэньваюць цяперашнюю ўладу як аўтарытарны рэжым, які не выконвае мінімальных стандартаў правоў чалавека і дэмакратычных свабодаў. Таму Беларусь ня мае доступу да эўрапейскіх салёнаў, таму яна выключаная з Рады Эўропы. Адзіная дзяржава, якая палітычна падтрымлівае Беларусь – гэта Расея. Але таксама Беларусь мае стасункі з Кітаем, Іракам, Іранам, Лібіяй. Некаторыя зь іх прэзыдэнт Буш нядаўна залічыў да сусьветнай "восі зла"...

***– Але названыя Вамі краіны значна мацнейшыя за Беларусь...***

**Карп:** Так, ад прыналежнасьці да клясыфікацыі, пра якую казаў мой калега, найбольш церпіць менавіта Беларусь. Бо іншыя краіны з той "восі" дастаткова моцныя. Яны вырабляюць ці хочуць вырабляць зброю масавага зьнішчэньня й таму зьяўляюцца рэальнай сілай. Аднак сказаць, што Беларусь – краіна зусім нявінная, таксама нельга. Апошнія дасьледаваньні паказалі, як многа зброі праходзіць праз беларускія дзяржаўныя гандлёвыя структуры.

***– Хутка Польшча і балтыйскія дзяржавы далучацца да ЭўраЗьвязу. Што рабіць Беларусі ў такім суседзтве?***

**Карп:** Гэта вялікая праблема для беларускага ўраду. Бо калі Расея сапраўды далучыцца да антытэрарыстычнай кааліцыі, ейная падтрымка беларускага аўтарытарызму зьменшыцца. Нават незалежна ад расейскіх інтарэсаў. Увогуле, дагэтуль ніхто насамрэч сур'ёзна не дамагаўся ад Расеі справаздачы ў справе Беларусі. Іншае справа – Чачэнія. Можна спадзявацца, што Расея будзе мець усё меншае поле манэўру, каб рэальна займацца палітычнай апекай Беларусі. Хоць у любым выпадку Масква, канешне, будзе рабіць усё дзеля таго, каб да ўлады ў Менску не прыйшлі людзі з празаходнімі поглядамі.

***– А ці Эўропа можа націснуць на Расею ў справе Лукашэнкі?***

**Карп:** Думаю, што гэты мэханізм будзе паступова раскручвацца.

**Валоўскі:** Я б тут трохі не пагадзіўся. Выглядае, што пакуль Захад хоча толькі гарантыяў бясьпекі з боку Беларусі (каб адтуль не было тэрарыстычных атакаў), і больш ня мае вялікага інтарэсу да РБ. Цяжка меркаваць, як гэткая сытуацыя можа зьмяніцца.

**Карп:** Так, Захад ня мае адмысловых інтарэсаў у Беларусі. Таму мы й маем тое, што маем. Я меў на ўвазе пераважна ролю чацьвертай улады – сродкаў масавай інфармацыі, іхны ціск на ваш рэжым. Так цяпер і ёсьць. Усе толькі дзівяцца, як гэта ў цэнтры Эўропы такое магчыма.

***– Якая, на Вашую думку, можа быць роля Польшчы ў дыялёгу паміж Захадам і Беларусьсю?***

**Карп:** Мяркую, што цяпер мы не выкарыстоўваем усяго свайго патэнцыялу ў гэтым дыялёгу. Аднак нельга сказаць, што нашая роля нязначная. Вялікую ролю ў Беларусі адыгрываюць польскія недзяржаўныя арганізацыі. Для тысячаў беларусаў Польшча зьяўляецца вялізнай дэманстрацыйнай пляцоўкай. Беларусы гандлююць, працуюць, вучацца ў Польшчы й маюць магчымасьць глядзець на польскую рэчаіснасьць пасьля рэформаў Бальцэровіча. Так калісьці палякі ў 1980-х масава езьдзілі ў Брытанію, Швэцыю, Нямеччыну...

***– А што можна сказаць пра палітычныя кантакты нашых краінаў у параўнаньні з кантактамі трэцяга сэктару?***

**Валоўскі:** Ёсьць вялікая праблема з палітычным дыялёгам зь беларускімі ўладамі. Трэба ясна ўсьведамляць, што калі Лукашэнка ўласнымі рашэньнямі ізалюе краіну, то нічога з гэтым ня зробіш. Ніякія прыгожыя дэклярацыі тут не дапамогуць. Зьмяніць сытуацыю можа толькі палітычная воля да дыялёгу і дэмакратызацыя краіны.

**Карп:** Афіцыйны Менск не рэагуе на меркаваньні Захаду, бо ведае, што ніякіх наступстваў гэта не пацягне – акрамя ізаляцыі. А ў ізаляцыі ён ужо жыць навучыўся. Аднак пасьля 11-га верасьня любыя падазрэньні ў сувязях з тэрарызмам пагражаюць канкрэтнымі акцыямі. У такой сытуацыі прысутнасьць у сьпісе пастаўшчыкоў зброі тэрарыстычным арганізацыям ці "бандыцкім" краінам можа мець канкрэтныя непрыемныя наступствы для беларускага рэжыму.

***Аляксей ДЗІКАВІЦКІ***

КУРАПАТЫ: АПОШНІЯ ЗЬВЕСТКІ

# ...Пакуль мэдалі сымбалічныя

***Грамадзкая ініцыятыва "За ўратаваньне мэмарыялу Курапаты" і Беларускі камітэт міру супольна выпрацавалі адзіную канцэпцыю мэмарыялу.***

Яна прадугледжвае, што яміны-магілы будуць пакінутыя цалкам некранутымі, а па ўсім пэрымэтры ўрочышча ўстановяць агароджу. Цяперашні Крыж Пакуты й памятныя знакі ўшанаваньня ахвяраў павінны застацца дамінантай будучага мэмарыялу.

Старшыня Беларускай асацыяцыі ахвяраў палітычных рэпрэсіяў Зінаіда Тарасевіч, лідэр Беларускай партыі свабоды Сяржук Высоцкі й скульптар Алесь Шатэрнік мяркуюць, што канцэпцыя павінна абапірацца на тое, што мэмарыял сьведчыць пра ахвяраў ***бальшавіцкага генацыду.*** Аднак большасьць сябраў грамадзкай ініцыятывы "За ўратаваньне..." схіляюцца да таго, што трэба ўжываць іншы, больш агульны тэрмін – ***палітычныя рэпрэсіі.***

...У мінулую суботу ў Курапатах адбылася талака сябраў Кансэрватыўна-Хрысьціянскай партыі – БНФ. Яны прыбіралі магілкі ды ставілі новыя крыжы. Абаронцы Курапатаў таксама бралі ўдзел у добраўпарадкаваньні ўрочышча, расчышчаючы, у прыватнасьці, тыя крыжы, якія раней былі засыпаныя будаўнікамі.

Тым часам Курапаты наведаў прафэсар Дэвід Гаўнт з Унівэрсытэту Паўднёвага Стакгольму, які зьяўляецца дырэктарам школы Балтыйскіх і Ўсходнеэўрапейскіх дасьледаваньняў. Ён заявіў, што ў сьвеце добра ведаюць пра Курапаты. Дарэчы, два тыдні таму ў Курапаты прыязджала група швэдзскіх археолягаў. Ейныя сябры паведамілі, што былі ў падобных мясьцінах у Латвіі, Літве й Эстоніі, але Курапаты найбольш моцна іх ўразілі.

Напрыканцы мінулага тыдня споўнілася паўгады, як доўжыцца безтэрміновая Вахта памяці. Дарэчы, з гэтай нагоды ў Дзень Волі ад імя нацыянальна-дэмакратычных сілаў былі ўзнагароджаныя адмысловымі мэдалямі і ганаровымі дыплёмамі абаронцы Курапатаў – Ірына Вяткіна, Павал Севярынец, Сяржук Высоцкі, Глеб Вязоўскі, Генадзь Дранковіч і Сяржук Мацкойць. Яны ў сваю чаргу прапаноўвалі падзяліць гэтыя мэдалі (яны вырабленыя ганчарным мэтадам) на шмат кавалкаў, каб сымбалічную ўзнагароду атрымалі ўсе абаронцы Курапатаў.

***Ганна СОУСЬ***



ШТО НА ТЫДНІ... У АСІПОВІЧАХ




***Яшчэ напярэдадні суботніка, што прайшоў 23-га сакавіка, у сярэднія школы з аддзелу адукацыі "спусьцілі" узор адмысловай ведамасьці.***

У ім была загадзя пазначаная сума суботнікаўскага дзённага заробку, насупраць якога кожны настаўнік павінен быў "добраахвотна" паставіць свой подпіс. Сябра прафсаюзу Дараганаўскай школы-інтэрнату Мікалай Тамашоў прапанаваў калегам запатрабаваць пералічэньня грошай не ў калгасную зямлю, а на рамонт сваіх установаў. У выніку пад адпаведнай заявай у райвыканкам падпісаліся больш за 50 настаўнікаў з 70-ці.

***24-га сакавіка ў Камсамольскім парку ў цэнтры горада сабраліся мясцовыя актывісты дэмакратычнага руху, каб адзначыць Дзень Волі.***

Людзі віталі адзні аднаго са сьвятам, у некаторых на шыі быў бел-чырвона-белы шалік, у іншых – карэтка ці хустачка нацыянальных колераў. Многія прыйшлі зь дзецьмі. Быў зладжаны імправізацыйны самадзейны канцэрт. Нарад міліцыянтаў, які зьявіўся ў парку, праверыў у сьвяткуючых дакумэнты й не знайшоў у іхных дзеяньнях ніякіх парушэньняў. Толькі міліцэйскі падпалкоўнік А.Кліменкоў абвінаваціў прысутных у правядзеньні несанкцыянаванага пікету й прапагандзе незарэгістраванай сымболікі.

***Паводле зьвестак лясьніцтва, на тэрыторыі раёна жывуць 36 зубраў.***

За апошнія пяць год іх папуляцыя ўзрасла ў два разы і ўжо стварае пэўныя праблемы для гаспадаркі. Таму плянуецца адстрэл хворых жывёлаў.

***У шэрагу населеных пунктаў раёну, дзе выкарыстоўваюцца падземныя воды, адзначаны падвышаны ўзровень жалеза, хлярыдаў і сульфатаў.***

Таму існуе вялікая верагоднасьць захворваньняў страўнікава-кішэчнага тракту. Бактэрыяльная забруджанасьць вады таксама ёсьць адной з прычынаў захворваньняў цяжкімі кішэчнымі інфэкцыямі, а ў шэрагу выпадкаў – і эпідэміяў.

***Рыгор ЛАТЫШЭВІЧ***

З НАГОДЫ ЮБІЛЕЮ

# Апошні рыцар сумленьня

***... Можна было й не сумнявацца ў тым, што калі Валеры Шчукін быў у мінулую нядзелю на масавым сьвяткаваньні Дня Волі, дык быў затрыманы.***

А ня быць там, на менскіх вуліцах, у калёне пад бел-чырвона-белым сьцягам ён мог толькі па адной прычыне – калі б ужо сядзеў на Акрэсьціна. Аднак не сядзеў... Значыць – быў і, значыць, быў затрыманы. Вечарам таго ж дня радыё "Свабода" гэта й пацьвердзіла.

Пацьвердзіла тое, што ў сьпісе больш чым 100 затрыманых чалавек значыцца й Валеры Шчукін. Журналіст. Праваабаронца. Дэпутат Вярхоўнага Савету 13-га скліканьня. Камуніст (хаця й выключаны год таму з шэрагаў КПБ за "несумяшчальныя з званьнем сябра партыі паводзіны"). Выключаны менавіта таму, што гэтыя паводзіны накіраваныя супраць лукашэнкаўскага рэжыму.

Чарговы палітычны арышт былога марскога афіцэра, чалавека, самое існаваньне якога надзвычай нэрвуе і злуе амонаўска-міліцэйскае начальства, бо яскрава выяўляе траэкторыю іхняга маральнага падзеньня, здарыўся адразу пасьля ягонага 60-годзьдзя...

Імя Валерыя Шчукіна ня ведаюць, пэўна, толькі тыя, хто ня хоча ведаць анічога й не цікавіцца жыцьцём зусім. Астатнім вядома, што чалавек гэты ў змаганьні за Незалежнасьць краіны, грамадзкую справядлівасьць і чалавечую годнасьць не прызнае памяркоўнасьці, ня ведае страху й ня мае межаў у выяўленьні асабістай адвагі.



Жанчыны-супрацоўніцы "Народнай волі" гавораць пра калегу толькі ўзьнёсла: рыцар і рамантык! І пры гэтым з жалем дадаюць – апошні...

Мо й таму, што ў ім выяўляецца безумоўны й не для ўсіх вытлумачальны парадокс часу. Камуніст, які на сваё выключэньне адазваўся з уласьцівай яму безкампраміснасьцю: гэта яны не камуністы! – вызнае беларускія нацыянальныя лёзунгі больш апантана, чымсьці многія штатныя нацыяналісты і сябры дэмакратычных партыяў. Праваабаронца, які правы чалавека бароніць не на сэмінарах, а ў пастарунках, судах і закратаваных камэрах. Журналіст, якога ў прафэсію (можа, так і павінна быць) прывёў не адпаведны дыплём, а нясьцерпны боль за недасканаласьці жыцьця...

Безумоўна, што Валеры Шчукін ёсьць сапраўдным героем. Бо жыве так, як гаворыць і робіць так, як думае.

Гэта вельмі нялёгка. Паспрабуйце...

***"Тыднёвік" – з найлепшымі пажаданьнямі да Вас, Валеры Аляксеевіч, з нагоды Вашых слаўных 60-ці год***



Фота С.Глазштэйна

# Крыху напалохалі

***Раніцай мінулай пятніцы кіроўцы прыватных маршрутных таксовак абласнога цэнтру правялі акцыю на плошчы Леніна.***

Каля 250-ці асобаў на сваіх мікрааўтобусах прыехалі да Дому саветаў скардзіцца на ціск з боку гарадзкой улады. Рэч у тым, што паводле нядаўняга рашэньня гарвыканкаму "маршруткамі" павінны быць аўтамабілі, не старэйшыя за 10 гадоў і маючыя як мінімум 10 пасадачных месцаў. Гарадзкія ўлады матывуюць гэткі захад клопатам пра эфэктыўнасьць пасажырскіх перавозак.

Згаданае рашэньне выклікала абурэньне ў прыватных кіроўцаў. Яны не разумеюць, як жорсткі "узроставы цэнз" машыны можна прыстасоўваць да прыватных таксовак у той час, калі насельніцтва спакойна перавозяць дзяржаўныя тралейбусы й аўтобусы, якім больш за 20 гадоў. У выніку даволі эмацыйнай размовы, якая адбылася на плошчы, намесьнік старшыні гарвыканкаму Аляксандар Кавалёў паабяцаў прыватнікам, што дзеяньне спрэчнага рашэньня будзе прыпыненае на тры тыдні. Цягам гэтага тэрміну будуць прымацца індывідуальныя рашэньні па кожнаму аўтамабілю.

***Ганна ЮРЧАНКОВА***

# Скажы дзецям "так"!

**У гэтую нядзелю, 31-га сакавіка, грамадзкія арганізацыі Горак на чале з жаночай ініцыятывай "Любава" плянуюць на гарадзкім кірмашы правесьці акцыю "Скажы дзецям "так"!, падчас якой будуць зьбірацца ахвяраваньні для дзяцей Старасельскай школы-інтэрнату.**

У школе-інтэрнаце ў вёсцы Старасельле, што ў 20 кілямэтрах ад Горак, навучаюцца 22 хлопчыка і дзяўчынкі ва ўзросьце ад 6-ці да 12-ці год. Яны – так званыя сацыяльныя сіраты, бо гадуюцца ў маламаёмасных і няпоўных сем'ях.

Сяброўства горацкіх жанчын, якія летась утварылі арганізацыю "Любава", са Старасельскай школай-інтэрнатам пачалося ў канцы мінулага году. Тады грамадзкія актывісткі разам з прадпрымальнікам-місіянэрам Уладзімерам Якубовічам наладзілі для дзяцей сямейнае сьвята. Трэба зазначыць, што дырэктар школы-інтэрнату Юры Іваноў не адмаўляе таго факту, што дзяржава фактычна забылася на школу.

Такім чынам, 31-га сакавіка сябры "Любавы" і грамадзкага клюба "УзГорак" будуць распаўсюджваць сярод насельніцтва і гандляроў горацкага кірмашу аб'яўкі з просьбай пра дабрачынную дапамогу дзецям. Ахвяраваньні будуць прымацца ад 9-й да 14-й гадзіны ў кірмашовым адміністрацыйным будынку.







***(На фота – эпізоды сяброўства дарослых дабрачыньнікаў з выхаванцамі школы)***



## ШТО НА ТЫДНІ... У БЯЛЫНЫЧАХ



***З прычыны затрымкі выплаты пэнсіяў старыя людзі пачынаюць страчваць раўнавагу.***

Цяпер самым ажыўленым месцам стала мясцовае аддзяленьне паштовай сувязі, празь якое большасьць пэнсіянэраў атрымлівае грошы. Старыя часьцяком вінавацяць менавіта паштавікоў, быццам бы ад тых штосьці залежыць.

***У раёне прайшоў суботнік, сродкі ад якога будуць накіраваныя на падтрымку пасяўной.***

Аднадзённыя заробкі падчас яго былі спагнаныя ў гэтак званым гразным выглядзе: без вылічэньня падаткаў, іншых адлічэньняў і да т.п. Райвыканкам таксама запатрабаваў ад мясцовых прыватных гандляроў "добраахвотна" пералічыць у фонд суботніка ня менш як па 50 тыс. руб. з кожнага "палатачніка" і ня менш за 100 тысяч з кожнага крамшчыка.

***Раённая бібліятэка, якая адчувае вялікі голад на кнігі, атрымала чарговы падарунак ад грамадзянаў.***

Сярод тых, хто дапамог папоўніць бібліятэчны фонд, былі браты-прадпрымальнікі Мікола ды Алег Мяцеліцы. Апошні вядомы таксама ў якасьці актывіста незарэгістраванага моладзевага руху "Зубр". Акурат на Дзень волі, калі распачаўся мясцовы Тыдзень кнігі, браты перадалі бібліятэцы стос беларускамоўнай мастацкай і гістарычнай літаратуры.

***Базыль ЛІЦЬВІНОВІЧ***


Рэдактар Генадзь СУДНІК

Тыднёвік Магілёўскі

Аналітычна-інфармацыйная газэта. Заснаваная Магілёўскім ГА «КОЛА СЯБРОЎ».
*Зарэгістраваная ў Дзяржкамітэце РБ па друку 06.11.1996 г. за № 831.*
*Штотыднёвік*



АДРАС РЭДАКЦЫІ: 212030, г. Магілёў, вул. Першамайская, 6-22.

Тэл./факс: 31-04-15, 22-97-82.
E-mail: krug@user.unibel.by
Інтэрнэт: http://tydniovik.hypermart.net



Газэта надрукаваная афсэтным спосабам у абласной друкарні імя Сьпірыдона Собаля, г. Магілёў, Першамайская 70. Замова 13. Наклад 2000 асобнікаў. Падпісана да друку 28.03.2002 г. а 17.05